*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 16
Верасень
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

ВЫБАРЫ 2012

## НЕ ПУШЧАЛІ НАЗІРАЛЬНІКАЎ

Дзве гадзіны не маглі разабрацца члены акруговай камісіі Магілёўскай прамысловай выбарчай акругі № 87 са сваімі абавязкамі. Яны патрабавалі пячатку на дакуменце, на якім па законе яна стаяць не павінна. Пры гэтым старшыня акруговай камісіі не жадаў ўнікаць у дэталі: *«Няма пячаткі - не пушчу!»* Вырашаць пытанне прыйшлося праз Цэнтральную выбарчую камисію, якая патлумачыла членам акруговай камісіі як напісана ў законе: пячатка на пратаколе напраўлення назіральніка ў камісію ставіцца ў тым выпадку, калі ў арганізацыі пячатка ёсць. Калі пячаткі няма (а закон дазваляе не мець пячаткі), то, адпаведна, дакумент сапраўдны без пячаткі.

У выніку дадзенага парушэння назіральнікі ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі былі дапушчаныя на ўчастку ўжо пасля таго, як скрыні былі апячатаныя.

## ЯК ПРАГАЛАСАВАЦЬ ЗА БАЙКОТ ?




Магілёўскі выбаршчык ўвёў у ступар членаў участковай камісіі сваім пытаннем. Аб гэтым выпадку распавёў назіральнік Сяргей Лапуцін. Ён сачыў за правядзеннем «выбараў» на ўчастку № 61 у Прамысловай акрузе Магілёва. *«Падышоў «трасянкоговорящий» мужчына, пытаецца: «Як за байкот прагаласаваць? Дзе ў бюлетэні паставіць адзнаку?»* Камісія так і не знайшла што адказаць выбаршчыку.

## НАЗІРАЛЬНІКІ ВЫЯВІЛІ ПАРУШЭННІ

25 верасня каардынатары кампаніі «За справядлівыя выбары» заявілі журналістам, што ў Магілёве ні на адным выбарчым участку не было адкрытага падліку галасоў.

Як адзначыў каардынатар кампаніі па Магілёўскай вобласці Юрый Новікаў, кампанію ўдалося арганізаваць нягледзячы на значныя перашкоды. У прыватнасці, 23 жніўня ў арганізатараў кампаніі міліцыя канфіскавала некалькі соцень рабочых дакументаў для назіральнікаў. Пасля суд прызнаў гэтую літаратуру перыядычнай друкаванай прадукцыяй і пастанавіў знішчыць.

Незалежныя назіральнікі працавалі на 100 участках у Магілёўскай вобласці. У асноўным гэта былі 85-й і 87-й акругі ў Магілёве і 78-я ў Бабруйску. *«На датэрміновым галасаванні яўка ў сярэднім была каля 20%. У дзень галасавання - ад 15% да 18%. У сярэднім за ўсе выбары атрымліваецца каля 39% »,* - заявіў Новікаў са спасылкай на дадзеныя назіральнікаў.

Ён адзначыў, што ў час датэрміновага галасавання на шэрагу участкаў 87-га акругі было адмоўлена ў прысутнасці назіральнікам ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Партыі БНФ. Пытанне вырашылася толькі пасля ўмяшання ЦВК.

*«Па ўсіх участках разыходжанне дадзеных, прадстаўленых назіральнікамі, і афіцыйных дадзеных вагаецца ад некалькіх да дзясяткаў адсоткаў»,* – заявіў каардынатар па назіранні ў 85-м акрузе Зміцер Салаўёў. Найбольшая розніца – 69% – была зафіксавана на 69-м участку гэтай акругі.

Салаўёў адзначыў, што практычна на ўсіх участках меў месца вялікі працэнт выязднога галасавання.

Ён таксама паведаміў аб прымусе да галасавання. *«Да прыкладу, на 41-м участку на стале ў камісіі ляжаў спіс выбаршчыкаў і спіс студэнтаў. У абодвух спісах студэнты распісваліся пры атрыманні бюлетэняў»,* – сцвярджае акруговы каардынатар па назіранні.

Як паведаміў Новікаў, назіральнікі ў Магілёўскай вобласці ўжо падалі 95 скаргаў на зафіксаваныя парушэнні.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

Цэнтральная выбарчай камісія Рэспублікі Беларусь паведамляе, што па выніках адбыўшыхся выбараў дэпутатамі ПП НС РБ абраны:

па Магілёўскай сельскай выбарчай акрузе № 88 РАЗГАНАЎ Аляксандр Іванавіч, 1953 г.н., дэпутат ПП НС РБ, пражывае ў г.Мінску, беспартыйны;

па Шклоўскай выбарчай акрузе № 90 АГЕЕЎ Аляксандр Віктаравіч, 1952 г.н., намеснік старшыні Камітэта дзяржкантролю РБ, пражывае ў г.Мінску, беспартыйны.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*

## Нашы сапраўдныя Герб і Сцяг

19 верасня 1991 года нашым нацыянальным сімвалам вярнулі статус дзяржаўных.

Бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня" заставаліся дзяржаўнымі да 1995 года, калі пасля рэферэндуму, ініцыяванага А. Лукашэнкам, была вернутая перайначаная савецкая сімволіка. Таксама 19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет БССР прыняў рашэнне аб змене назвы краіны: Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка стала Рэспублікай Беларусь.



Гербу "Пагоня" – больш за 600 гадоў. Выява збройнага вершніка была папулярным сімвалам ва Усходняй Еўропе. Да 1366 года адносіцца дакумент з пячаткай, які паказвае вершніка з мячом. З канца XIV стагоддзя вершнік, намаляваны на фоне геральдычнага шчыта, - на пячатках вялікіх літоўскіх князёў Ягайлы і Вітаўта.

Беларуска-літоўскія летапісы першай паловы XVI стагоддзя прыпісваюць стварэнне герба легендарнаму вялікаму князю XIII стагоддзя Нарымунту Раманавічу.

«Пагоня» была элементам герба Рэчы Паспалітай да яе падзелу ў 1795 годзе. Пасля гэтага «Пагоня» як частка некаторых губернскіх гербаў трапіла ў склад дзяржаўнага герба Расіі. Да 1900 года «Пагоня» з'яўлялася асноўнай альбо складовай часткай 22-х гербаў гарадоў Расійскай Імперыі, трох губерняў і адной вобласці.

У 1918 годзе «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг сталі дзяржаўнымі сімваламі Беларускай Народнай Рэспублікі. У савецкі час яны былі пад забаронай, але заставаліся сімваламі супраціўлення.

*Юлія БРУК.*

Паводле charter97.org

## Памерла Крысціна Шацікава

21 верасня 2012 г. на 38-м годзе жыцця памёрла Крысціна ШАЦІКАВА – чалавек, які нягледзячы на цяжкую хваробу да апошняга свайго дня займаў актыўную грамадзянскую пазіцыю.

Апошнім часам Крысціна Шацікава жыла з бацькамі на лецішчы ў весцы Дубінка Магілёўскага раёна. У яе засталіся двое дзяцей – 14-гадовы Ягор і 16-гадовы Мікіта, якіх у свой час улады хацелі ў яе




адабраць. Ды і захварэць ёй, відаць, "дапамаглі". Па словах яе блізкіх, Крысціна пачала хварэць пасля моцнага збіцця міліцыянтамі ў 2006 годзе, калі ёй пашкодзілі лімфаузел.

За прынцыповасць і цвёрдую грамадзянскую пазіцыю доўгія гады супраць маладой жанчыны ладзілі рэпрэсіі, пагражалі тым, што забяруць у яе дзяцей, рабілі ёй псіхіятрычнай экспертызы.

Пахаванне Крысціны Шацікавай адбылося 23 верасня на могілках вёскі Дубінка.

Фотаздымак Міколы Яцкова. 15.07.2007 г.

# ЭКСТРЭМАЛЬНЫ СЕМІНАР

**18 верасня ў Магілёве падчас семінара прадстаўнікоў «маладзёжак» ліберальных партый з удзелам замежных гасцей у памяшканне ўварваліся некалькі супрацоўнікаў міграцыйнай службы Ленінскага раёна Магілёва. Яны затрымалі замежнікаў, якія пакінулі пашпарты ў атэлі.**

За пашпартамі замежных грамадзян адправілі аднаго з удзельнікаў семінара ў суправаджэнні прадстаўніка ўладаў. Замежныя грамадзяне з'яўляюцца прадстаўнікамі міжнародных моладзевых ліберальных арганізацый з Аўстрыі, Германіі, Нідэрландаў, ЗША. Семінар быў прысвечаны выбарчай кампаніі, якая праходзіла ў Беларусі.

Грамадзян Беларусі перапісалі, паабяцаўшы «сур'ёзную размову» ў найбліжэйшай будучыні. Гэта сябры моладзевых арганізацый дэмакратычных партый: Грамадзянскі форум, БХД і АГП.

Замежным грамадзянам было загадана пакінуць Беларусь да 20 верасня.

*"Хтосьці не хацеў, каб прадстаўнікі моладзевых арганізацый з замежных дзяржаў атрымлівалі праўдзівую інфармацыю аб Беларусі",* – заявіў журналістам член Міжнароднай федэрацыі ліберальнай моладзі Даніэль Георг, якому ў ліку іншых загадана пакінуць Беларусь. Ён лічыць, што ў Беларусі ёсць рэчы, якія можна было б змяніць і зрабіць лепш. *"Мы ведаем, што адбываецца ў вашай краіне і як ідуць справы. Мы будзем далей сачыць за сітуацыяй у Беларусі. Мы вернемся кожны да сябе і зможам спакойна хадзіць па вуліцах і гаварыць з сябрамі пра што хочам. Але мне вельмі шкада тых людзей, якія знаходзяцца тут у Беларусі, таму што яны не могуць гэтага рабіць спакойна і свабодна",* – сказаў госць з Германіі.

Замежныя грамадзяне маюць намер абскардзіць рашэнне міграцыйных улад Магілёва ў судзе.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*

# ГРОШЫ НА ПРАПАГАНДУ СКОНЧЫЛІСЯ ?



**Пяць рэспубліканскіх дзяржаўных газет плануецца аб'яднаць у адну. Грамадска-палітычны выдавецкі дом у Беларусі пачне працаваць з 2013 года. Аб гэтым на сустрэчы з калектывам пружанскай газеты "Раённыя будні" паведаміў міністр інфармацыі Беларусі Алег Праляскоўскі.**

Міністр адзначыў, што ў Беларусі практычна утвораны выдавецкі дом "Звязда" культуралагічнай накіраванасці. Адпаведны загад ужо падпісаны. У выдавецкі дом ўвайшлі рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "ЛіМ", газета "Літаратура і Мастацтва", часопісы "Полымя", "Маладосць", "Нёман", "Вожык".

Паралельна вядзецца праца па стварэнні грамадска-палітычнага выдавецкага дома. У гэты холдынг ўвойдуць 5 асноўных рэспубліканскіх газет: "Савецкая Беларусь", "Народная газета", "Рэспубліка", "Беларуская ніва" і "Знамя юности".

Што тычыцца журналістаў газет, якія ўвойдуць у холдынг, міністр адзначыў, што рэарганізацыя не пацягне за сабой скарачэння творчых кадраў. Па сутнасці, гэта будзе адна вялікая галоўная газета краіны. *"У нас сёння дастаткова шмат галоўных газет. У той жа час Беларусь – краіна невялікая, і ў нас не так шмат навін і падзей, таму рэспубліканскія газеты шмат у чым дублююць адзін аднаго, пішуць пра адно і тое ж. Пры стварэнні адзінага выдавецкага дома з'явіцца магчымасць манеўру рэдакцыйнай палітыкі. І самае галоўнае: у краіне з'явіцца адзіны дзяржаўны друкаваны орган – сур'ёзны, вялікі, аўтарытэтны ",* – сказаў Алег Праляскоўскі.

*Падрыхтаваў Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

# "Саўка ды Грышка" ў Магілёве



**Лявон Вольскі прэзентаваў у Магілёве дыск «Саўка ды Грышка. 100 песень». Выступ 25 верасня стаў паўнавартасным канцэртам, які сабраў у грамадскім цэнтры «Кола» каля сотні магілёўцаў.**

На працягу амаль двухгадзіннага выступу, народ гучна падпяваў Лявону Вольскаму і Паўлу Аракеляну і нават танцаваў пад добра вядомыя песні часоў «NRM», «Крамбамбулі» або «Народнага альбома». Кожны госць мерапрыемства атрымаў у падарунак дыск «Саўка ды Грышка: 100 песень» з серыі «Бібліятэка Свабоды». На новым дыску сабраныя песні, якія гучалі на працягу двух гадоў у эфіры і на сайце «Свабоды».



*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.* Паводле gorad.by

# Мясніковіч супраць прагнозных паказчыкаў



**У Беларусі плануецца адысці ад практыкі шматлікіх прагнозных паказчыкаў, паведаміў 14 верасня журналістам прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч.**

*"Мы пойдзем у 2013 годзе ад гэтай шматлікасці паказчыкаў для прадпрыемстваў, міністэрстваў, рэгіёнаў. Пакінем у асноўным якасныя паказчыкі",* – адзначыў Мясніковіч.

Сёння існуе больш за 15 паказчыкаў для прамысловага прадпрыемства, звярнуў увагу прэм'ер-міністр. *"Людзі проста паралізаваныя такім вялікай колькасцю даводзімых паказчыкаў, і часам у іх не застаецца часу на нейкае творчасць для таго, каб падумаць аб перспек-тыўным развіцці на многія гады наперад. Таму пытанні чыстага прыбытку, пытанні рэнтабельнасці, экспарту, сальда, энергазберажэння – гэта галоўнае для прадпрыемства ",* – сказаў ён.

Рэгіёны павінны клапаціцца аб занятасці (што азначае новыя працоўныя месцы, а для гэтага патрэбныя інвестыцыі), кантраляваць пытанні заработнай платы.

*"У міністэрства я вылучыў бы паказчыкі, якія характарызуюць развіццё галіны. Прычым не толькі прадпрыемстваў з дзяржаўнай доляй або дзяржаўных прадпрыемстваў. Міністр адказвае за выгляд або віды дзейнасці, якія ўваходзяць у кампетэнцыю гэтага міністэрства, і павінен арганізаваць працу ў цэлым па галіне",* - падкрэсліў прэм'ер-міністр.

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*
Паводле БелТА.

# Палыкавіцкая крыніца

**Цуд - крыніца мае старажытную і багатую гісторыю. Яна вядома з 1552 г., калі і паселішча Палыкавічы, і крыніца належалі магілёўскаму старасце Станіславу Кезгайла. Ішоў час. Мяняліся гаспадары Палыкавічаў, але нязменнай заставалася толькі крыніца, якая давала сваю жыватворную вільгаць жыхарам, і якая была, па сутнасці, цэнтрам духоўнага і культурнага жыцця бліжэйшых вёсак.**



Найбольшую вядомасць крыніца набыла на пачатку 19 ст., калі гаспадаром маёнтка стаў граф Рымскі - Корсакаў. Пры ім над крыніцай быў збудаваны каменны грот. Пасля таго, як ля крыніцы граф пабудаваў капліцу ў імя Святой Параскевы - Пятніцы, сюды, у 8-ю - 10-ю пятніцу пасля праваслаўнага Вялікадня, калі вадзе крыніцы прыпісваліся асаблівыя гаючыя ўласцівасці, з'язджаліся тысячы людзей з Магілёва, блізкіх і далёкіх ваколіц...

*Юлія БРУК.*

*(Працяг будзе)*



У сям'і было двое дзяцей - адзін песіміст, а другі аптыміст. Набліжаецца Новы год. Вырашылі бацькі іх "зраўнаваць", ну каб не такія крайнасці былі, і прыгатавалі падарункі: песімісту каня - пампавалку, а аптымісту кучу конскага гною. Раніцай дзеці прачынаюцца ...

**Песіміст:** *«Нууу, лашадкааа... Маленькая, а я хацеў вялікую... Карычневая, а я хацеў шэрую ў яблыках... Драўляная, а я хацеў живуууююю... »*

**Аптыміст:** *«А ў мяне жывая! Толькі ўцякла!»*

"СПРАВА"
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 30.09.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.